# Голас Радзімы

№ 31 (2017)
30 ліпеня 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.






**Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР адзначае сваё трыццацігоддзе. Гэты час у жыцці навуковай установы ўвабраў у сябе шмат значных падзей: тут была і напружаная праца, і незабыўныя сустрэчы, і, як вынік, усесаюзнае і міжнароднае прызнанне работы супрацоўнікаў.**

**НА ЗДЫМКАХ: шматлікія працы — вынік даследчай работы калектыву Інстытута; доктар філалагічных навук прафесар К. КАБАШНІКАЎ узначальвае аддзел, які займаецца вывучэннем беларускага фальклору; старшыя навуковыя супрацоўнікі кандыдаты гістарычных навук С. МІЛЮЧЭНКАЎ (злева) і В. ЦІТОЎ; народныя песні Алімпіяды ДАРОШКА (вёска Вязынка Мінскай вобласці) запісваюць Т. ЦЯПКОВА (злева) і кандыдат філалагічных навук Г. БАРТАШЭВІЧ.**

**(З нагоды юбілею Інстытута наш карэспандэнт узяў інтэрв'ю ў дырэктара гэтай навуковай установы Станіслава МАРЦЭЛЕВА. Яно змешчана на 6 стар.).**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**





*ЧАЛАВЕК І ГРАМАДСТВА*

# АБ'ЯЎЛЯЕЦЦА АМНІСТЫЯ...

У сувязі з 70-годдзем Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, якое спаўняецца сёлета, Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР выдаў Указ аб правядзенні амністыі. Яна будзе ажыццёўлена на працягу бліжэйшых шасці месяцаў.

Амнісціраванне злачынцаў уведзена з першых год існавання Краіны Саветаў. Як правіла, гэтыя акцыі прымяркоўваюцца да знамянальных дат у жыцці Савецкай дзяржавы. У чым жа адрозненне сёлетняй амністыі ад папярэдніх?

— Гэта адна з самых шырокіх амністый у гісторыі краіны па колу асоб, якія пад яе падпадаюць,— заявіў вядомы юрыст, кіраўнік сектара тэорыі і сацыялогіі крымінальнага права Інстытута дзяржавы і права Акадэміі навук СССР, прафесар Аляксандр Якаўлеў.— Да іх адносяцца, у прыватнасці, людзі, якія раней прымалі ўдзел у баявых дзеяннях па абароне СССР, асобы, узнагароджаныя ў мінулым ордэнамі і медалямі, жанчыны, якія маюць непаўналетніх дзяцей, інваліды, усе мужчыны, якім больш за 60 год, і жанчыны з 55 год — незалежна ад тэрміну пакарання, які прызначыў ім суд за здзейсненыя злачынствы. Акрамя таго, вызваляюцца жанчыны, якія асуджаны да пазбаўлення свабоды на тэрмін да пяці год і адбылі не менш трэці яго, непаўналетнія, якія адбылі не менш аднаго года ад прызначанага ім тэрміну пакарання. Усе астатнія злачынцы, асуджаныя на тэрмін да трох год, падлягаюць умоўнаму вызваленню з месцаў пазбаўлення свабоды з абавязковым працаўладкаваннем.

Сёлетняя амністыя мае і другую асаблівасць. Калі раней, скажам, такая акцыя прадугледжвала толькі вызваленне з месцаў зняволення пэўнай катэгорыі асуджаных, то цяпер яна прадугледжвае таксама істотнае скарачэнне працягласці зняволення для тых, хто па-ранейшаму будзе адбываць пакаранне,—ад трэці да палавіны тэрміну.

**— На каго не распаўсюджваецца дзеянне амністыі?**

— Перш за ўсё, на людзей, асуджаных за асабліва небяспечныя і іншыя дзяржаўныя злачынствы, напрыклад, за шпіянаж, кантрабанду, бандытызм. Не падлягаюць амністыі і асабліва небяспечныя рэцыдывісты, асобы, што здзейснілі наўмыснае забойства (калі гэта не адбылося ў стане афекта ці пры перавышэнні мяжы неабходнай абароны), крадзеж дзяржаўнай ці грамадскай маёмасці ў асабліва буйных памерах, крадзеж асабістай маёмасці грамадзян з пранікненнем у кватэру (як гавораць у народзе, «крадзеж з узломам») і г. д.

Не амнісціруюцца таксама такія злачынствы, як, напрыклад, угон самалётаў, парушэнне правіл бяспекі на выбухованебяспечных прадпрыемствах, калі яны выклікалі гібель людзей (як гэта было, у прыватнасці, на Чарнобыльскай АЭС), а акрамя таго, усе віды дзеянняў, звязаных з наркаманіяй, у тым ліку гандаль ці крадзеж наркотыкаў, схіленне да іх ужывання, утрыманне прытонаў.

Нарэшце, сёлетняя амністыя не распаўсюджваецца на людзей, якія ўжо вызваляліся раней ад пакарання ў выніку памілавання ці папярэдніх амністый і якія зноў учынілі наўмыснае злачынства.

**— Ці не выкліча такое масавае вызваленне асоб, якія аднойчы парушылі закон, да ўсплеску злачыннасці ў краіне?**

— Думаю, што не. Аб гэтым сведчыць, у прыватнасці, вопыт папярэдніх амністый, якія не выклікалі якіх-небудзь істотных змяненняў у статыстыцы злачынн...

Увогуле, у сувязі з актам амністыі я прадбачу як бы двайную рэакцыю грамадскай думкі. Першая — навошта датэрмінова выпускаць на волю тых, хто заўтра можа зноў учыніць злачынства? Гэта натуральная «ахоўная» рэакцыя большасці людзей. Але ёсць і іншы пункт гледжання: калі хаця б частка вызваленых вернецца да нармальнага, сумленнага жыцця, для грамадства гэта ўжо добра. Што ж датычыць непазбежнай пры гэтым рызыкі ўспышкі злачыннасці, то звесці яе да мінімуму якраз і закліка{ны «выключэнні» з амністыі.

**— І ўсё ж у памяці савецкіх грамадзян пажылога і сярэдняга ўзросту захаваліся нядобрыя ўспаміны аб амністыі 50-х гадоў, якая выклікала рост злачыннасці...**

— Так, і ў гэтай з'явы ёсць свае прычыны. У тыя гады кантынгент злачынцаў у нас быў намнога больш небяспечным, чым цяпер, і гэта была расплата за скажэнні папраўча-працоўнай палітыкі, дапушчаныя ў перыяд культу асобы Сталіна. На працягу амаль двух папярэдніх дзесяцігоддзяў у папраўча-працоўных установах мучыліся тысячы ні ў чым невінаватых людзей, а вось крымінальнікі-рэцыдывісты адчувалі сябе там вольна. У выніку ў той перыяд месцы зняволення па сутнасці ператварыліся са сродкаў перавыхавання ў «пітомнікі» злачыннасці.

Цяпер становішча зусім іншае. Па-першае, прынцыпова іншым стала само наша грамадства, а яго праваахоўныя органы ўжо на працягу многіх год прама арыентаваны на барацьбу са злом. Па-другое, значна змянілася сама карціна злачыннасці: сёння доля найбольш небяспечных і цяжкіх злачынстваў складае ў ёй вельмі нязначную частку.

Хачу падкрэсліць таксама, што наша канцэпцыя барацьбы са злачыннасцю базіруецца не на больш жорсткім пакаранні, а на яго немінучасці. Гісторыя і вопыт вучаць нас, што цяжар пакаранняў і цяжар злачынстваў — нешта накшталт сазлучаных сасудаў, гэта значыць празмернае пакаранне з'яўляецца, па сутнасці, бумерангам, які выклікае, як правіла, рост злачынстваў. І наадварот, змякчэнне, па магчымасці, пакарання, правядзенне амністый садзейнічаюць змяншэнню выпадкаў парушэнняў закона, большаму «працэнту» вяртання ўчарашніх злачынцаў да нармальнага жыцця.

Валерый ЦЯЛЕГІН.



# ВЯРТАЮЦЬ ЛЮДЗЯМ ЗДАРОЎЕ

**...Вучаніца Марына Радзюк з вёскі Дуліна Віцебскай вобласці паехала на экскурсію ў Бярэзінскі запаведнік. У адной з вальераў мядзведзь не прыняў дзіцячай ласкі і моцна пакалечыў Марыне руку. Пад пагрозай аказалася і само жыццё дзяўчынкі, якую даставілі ў Рэспубліканскі цэнтр мікрахірургіі. Больш сямі гадзін правёў у аперацыйнай са сваімі памочнікамі хірург Уладзімір Падгайскі, ратуючы юную пацыентку. Цяпер Марына Радзюк папраўілася.**

**Неяк увечары прывезлі будаўніка Уладзіміра І. без пальцаў на левай руцэ. А больш дакладна — пальцы таксама прывезлі, але асобна...**

**Выпадкі гэтыя, нягледзячы на ўсю трагічнасць, у практыцы мікрахірургаў радавыя. У цэнтр прывозяць людзей і са значна больш цяжкімі траўмамі. Дакладным інструментам, пад аперацыйным мікраскопам з павелічэннем прыкладна ў сорак разоў, ніткамі намнога танчэйшымі за чалавечы волас, тут сшываюць і перасаджваюць нервы, сасуды, сухажылле, аднаўляюць адарваныя тканкі... І ўсё гэта з гарантыяй, што рэканструяваныя органы будуць выконваць, калі не ўсе, то вельмі шырокае кола функцыянальных абавязкаў.**

**Каля тысячы паспяховых аперацый зроблена ў Рэспубліканскім цэнтры мікрахірургіі, столькі ж людзей, дзякуючы ўмелым і клапатлівым рукам урачоў гэтай медыцынскай установы, зноў вярнуліся да вучобы, працы, заняткаў спортам.**



**НА ЗДЫМКАХ: у аперацыйнай Рэспубліканскага цэнтра мікрахірургіі; Марына РАДЗЮК перад выпіскай дадому са сваімі выратавальнікамі (справа налева) — хірургамі Уладзімірам ПАДГАЙСКІМ, Сяргеем МЯЧКОЎСКІМ, Вячаславам ТАЧЫЛОЎСКІМ, аперацыйнымі сёстрамі Ірынай ЗЫК, Галінай ШЫНКЕВІЧ і Алай ГЛАЗКО.**

**Фота У. ВІТЧАНКІ.**

## АДЗІН ДЗЕНЬ НУЛЯВОГА КЛАСА

# У ШКОЛУ—З ШАСЦІ ГАДОЎ

**Такую задачу ставіць школьная рэформа, якая ажыццяўляецца зараз у Савецкім Саюзе.**

**У нашай рэспубліцы з 1984 года пачаўся масавы пераход на навучанне дзяцей з 6 гадоў. Сёння практычна ўсе шасцігодкі займаюцца ў нулявых класах сярэдніх школ ці ў падрыхтоўчых групах дзіцячых садоў.**

Зразумела, што прасцей і эфектыўней было б, каб першапачатковым навучаннем займалася толькі школа. Праз некалькі год так і будзе. Але пакуль яна не можа ўзяць гэтую функцыю цалкам на сябе. І праблема не столькі педагагічная, колькі сацыяльная і эканамічная. Для шасцігадовых дзяцей у школе трэба стварыць адпаведныя камфортныя ўмовы. Павінны быць не толькі класы для заняткаў, але і пакоі для гульняў, спальні — малыя ж знаходзяцца тут на працягу ўсяго дня, пакуль бацькі на працы. Такую сацыяльную базу сёння мае ўжо прыкладна палавіна школ рэспублікі.

Пераход на навучанне дзяцей з 6 гадоў запатрабаваў таксама ўнесці карэктывы ў падрыхтоўку педагогаў. Адначасова спецыялістамі праводзіліся разнастайныя даследаванні фізіялогіі, псіхалогіі дзяцей 5—6-гадовага ўзросту, вывучалася іх зрокавая памяць, кемлівасць і многае іншае. Вучоныя атрымалі вельмі цікавыя вынікі. На іх думку, якраз у 5—7-гадовым узросце чалавек можа ўспрыняць амаль палову (!) інфармацыі, якую ён спасцігне за ўсё жыццё. Зразумела, калі падаваць яму гэтую інфармацыю разумна. Даследчыкі лічаць, што гутарцы на канкрэтную тэму варта адводзіць максімум 15—20 хвілін. Самы эфектыўны метад засваення ведаў — гульня.

Я пабываў у мінскай сярэдняй школе № 19 (самай звычайнай школе, якіх у сталіцы рэспублікі больш за паўтары сотні) і правёў з вучнямі нулявога класа адзін іх вучэбны дзень.

Заняткі пачаліся ў дзевяць гадзін раніцы. Першым урокам была матэматыка. Дзеці вучыліся лічыць. Настаўніца Галіна Воранава паказвала малюнкі розных прадметаў, яны называлі іх, запаміналі, а потым адказвалі, колькі было лялек, аўтамабіляў, самалётаў і г. д. Зазначу, што амаль усе адказы былі правільнымі. У хуткім часе гэтыя малечы ўжо будуць асвойваць простыя арыфметычныя дзеянні — складваць і аднімаць.

На ўроку пісьма юныя школьнікі вучыліся чытаць і пісаць. Дзеці старанна выводзілі кожную літару, некаторыя хваляваліся, калі атрымлівалася не дужа добра. А потым разам з настаўніцай імправізавалі такую сцэнку: уявілі сябе пакупнікамі, якія прыйшлі ў... дзеці дружна называюць — «Булачную» і тут жа запісваюць словa ў сшытак, потым яны «купляюць» хлеб і іншыя прадукты.

Мне запомніліся не толькі ўрокі, але і перапынкі паміж імі. У вучняў нулявога класа яны доўжацца 25 хвілін — на 10 больш, чым у астатніх школьнікаў. У добрае надвор'е дзеці абавязкова гуляюць на двары. На гэты раз для іх быў наладжаны футбольны міні-матч, які азнаменаваўся адным голам і дзесяткам сінякоў — гульня была не вельмі «карэктнай».

Трэці ўрок — знаёмства з навакольнай прыродай — дзеці правялі ў прышкольным садзе.

Так незаўважна і праляцелі заняткі. Пабегаўшы на двары, малыя з апетытам паабедалі (ім падалі наварысты боршч, сечанае мяса з гарнірам і кампот) і адправіліся ў спальню.

Пасля дзвюх гадзін сну — актыўны адпачынак. У гэты час, як правіла, наладжваюцца сюжэтнаролевыя гульні. Напярэдадні дзеці хадзілі на экскурсію ў гарадскую бібліятэку, і сёння настаўніца папрасіла іх паўтарыць усё, што яны бачылі там. Аднаму хлопчыку выпала роля бібліятэкара, астатнія сталі чытачамі. Дарэчы, амаль усе дзеці ўжо чытаюць па 30 слоў у хвіліну. Так што яны даволі хутка знаходзілі на паліцах названыя настаўніцай кнігі, а потым коратка пераказвалі змест таго, што паспелі прачытаць.

Вось так насычана і дынамічна праходзіць кожны вучэбны дзень у нулявым класе. У шэсць гадзін вечара, калі бацькі пасля працы заходзілі ў школу па дзяцей, я бачыў, што многія малыя даволі неахвотна збіраліся дамоў. Напэўна, не заўсёды дома ім бывае так цікава, як у школе.

Але, зразумела, і ў самой школы яшчэ нямала праблем. Я ўжо гаварыў, што далёка не кожная мае сёння адпаведныя ўмовы для вучобы і адпачынку шасцігадовых дзяцей. Зараз гэтая праблема энергічна вырашаецца. Толькі за апошнія два гады ў рэспубліцы рэканструявана 15 тысяч школ, на што было выдаткавана амаль 250 мільёнаў рублёў. Сёлета будзе перабудавана яшчэ 570 сярэдніх навучальных устаноў. Практычна ўсе школы ўзводзяцца зараз па новых праектах, якія прадугледжваюць неабходны камфорт для шасцігодак.

Другая, не менш важная праблема — падрыхтоўка і перападрыхтоўка кадраў педагогаў для навучання малодшых школьнікаў. На думку спецыялістаў Беларускага навукова-даследчага інстытута педагогікі, толькі адзін з чатырох настаўнікаў пачатковых класаў па ўзроўню кваліфікацыі адпавядае патрабаванням сённяшняга дня. Каб ліквідаваць гэты разрыў, ва ўсіх педагагічных інстытутах і вучылішчах рэспублікі ўведзены спецыяльныя курсы лекцый і практычных заняткаў па методыцы навучання шасцігадовых дзяцей.

Вядома, што за адзін-два гады ўсе гэтыя задачы вырашыць немагчыма. Бо, акрамя праблем з нулявымі класамі, у сярэдняй школы яшчэ нямала іншых, не менш важных і актуальных. Школа распачала сапраўды глабальную перабудову, і першыя крокі ўжо зроблены.

Сяргей АНУПРЫЕНКА, сацыёлаг.

НА ЗЯМЛІ БАЦЬКОЎ

# КАБ ЗДЗЕЙСНІЦЬ НАДЗЕІ І МАРЫ

**З 1 па 7 ліпеня ў Беларусі пабывала чарговая група сяброў газеты «Русский голос», нашых суайчыннікаў са Злучаных Штатаў Амерыкі. Прапануем увазе чытачоў нататкі карэспандэнта «Голасу Радзімы» аб знаходжанні групы ў Мінску.**

Землякоў з-за акіяна сталіца Беларусі сустрэла моцным дажджом. З аўтобуса, які прывёз іх ад самалёта ў залу аэрапорта, давялося перабягаць літаральна пад патокамі вады. Не кожны змог зрабіць гэта хутка, людзі ў групе ў асноўным пажылыя. Але не было прыкметна незадаволенасці. На тварах заззялі радасныя ўсмешкі.

— Адразу відаць, што мы, нарэшце, у Беларусі,— пажартаваў Павел Карончык.

— Так, дажджы тут у нас звычайная справа,— дабавіў Якаў Бажко.

«Тут у нас», так гаварылі аб Беларусі многія члены групы. Усіх іх прывяло сюды тое агульнае, што аб'ядноўвае і жыве ў душы кожнага,— памяць аб Радзіме, вялікая любоў да яе.

Якаў Бажко нарадзіўся на Палессі ў пасёлку Іванава. Хлапчуком паехаў з сям'ёй за акіян. І хоць гавораць, што дзеці хутка прывыкаюць да новых умоў, ён прывыкнуць так і не змог.

— Вельмі добра памятаю, што спачатку я не адчуў асаблівай розніцы,— успамінае Якаў Максімавіч.— У доме ў нас усё было гэтак жа, як у Іванаве, і размаўлялі, вядома, на роднай мове. Я ўпершыню зразумеў, што трапіў на чужыну і адчуў сум па роднай зямлі, калі мяне з сястрой паслалі вучыцца ў амерыканскую школу для іншаземцаў. Для Амерыкі я так і застаўся іншаземцам, хоць і пражыў там усё жыццё. А Радзіма мая тут. Таму і прыязджаю ў Беларусь, як толькі выпадае магчымасць. Пабываў упершыню ў 1969 годзе, тады і даведаўся аб існаванні газеты «Голас Радзімы», стаў яе падпісчыкам. Хачу сказаць, што з яе з'яўленнем у нашай сям'і жыццё на чужыне стала лягчэйшым. Я быццам кожны тыдзень бываю ў Беларусі, таму што з газеты ведаю аб усіх навінах, якія адбываюцца тут. Але, вядома, самае лепшае гэта прыехаць і ўбачыць усё самому.

Большасць членаў групы знаёмыя адзін з адным, ужо не раз бывалі ў падобных паездках. З многімі з іх давялося сустракацца і мне. Павел Карончык, Якаў Бажко, Кацярына Медвід, Зінаіда Палеская, Іван і Марыя Раманчак у розныя гады былі гасцямі Беларускага таварыства «Радзіма» і рэдакцыі газеты «Голас Радзімы». А з кіраўніком групы Уладзімірам Дубінам і яго жонкай Стэлай мы сустракаемся ў Мінску амаль што кожны год. Мусіць, таму і размова пачалася з успамінаў.

— А Мінск усё расце, прыгажэе,— сказаў Уладзімір Дубіна. — Хаця прыязджаю сюды часта, але кожны раз бачу нешта новае. Сёння я нават падумаў, што мы прызямліліся не ў Мінску. Упершыню прызямліліся ў новым аэрапорце. Упэўнены, што, як заўсёды, група застанецца задаволенай. Шкада толькі, што надвор'е нас не цешыць.

Гэта заўвага аб надвор'і потым не раз успаміналася турыстамі. Не прайшло і пяці мінут, як у разрыве хмар з'явілася сонца, увесь тыдзень надвор'е б цудоўным.



Турысты-суайчыннікі з ЗША каля манумента ў гонар горада-героя Мінска.

Ля гасцініцы аўтобус сустракала многа людзей. Амаль да кожнага прыехалі сваякі з усіх канцоў Беларусі. Сустрэча з роднымі. Слёзы радасці, усмешкі. Як чакаюць гэтага моманту нашы землякі на чужыне. Як доўга потым з цеплынёй у сэрцы ўспамінаюць яго, на душы становіцца святлей і зноў цягне на родную зямлю.

Яшчэ ў першы дзень я звярнуў увагу на маладую дзяўчыну, якая выглядала насцярожанай і размаўляла толькі з адным чалавекам — сваёй маці. Цяпер студэнтку універсітэта з Тэхаса Дану Розу Джонс было не пазнаць. Усмешка не сыходзіла з твару, яна, у каторы ўжо раз, дзялілася ўражаннямі аб паездцы ў пасёлак Дзятлава на Гродзеншчыне да сваёй стрыечнай бабулі.

— Я ведала, што бабуля і дзядуля родам з Беларусі,— гаварыла Дана, блытаючы англійскія і беларускія словы.— Але толькі пасля таго, як пабывала ў іх родных вёсках, сустрэлася з іх сваякамі, адчула па-сапраўднаму, што і мае карані тут, што і я часцінка гэтага народа.

Маці Даны Джазафіна Новак з добрай усмешкай слухала дачку, а затым расказала перадгісторыю гэтай паездкі.

Яе бацькі выехалі ў ЗША яшчэ ў дваццатыя гады. Джазефіна нарадзілася ўжо ў Амерыцы. Дома яны размаўлялі толькі па-беларуску, і гэтая мова стала роднай і для Джазефіны. Колькі яна помніць, і маці і бацька ўвесь час марылі пабываць на Радзіме. Але сям'я жыла бедна. Бацька так і памёр. Пастарэла і маці, цяпер ёй васемдзесят чатыры гады. І хаця сям'я дачкі жыве заможна, здароўе не дазваляе адправіцца ў далёкую дарогу.

— Дачушка, з'ездзі хоць ты замест мяне да сястры, паглядзі, як там яна, якая наша вёска. Потым мне раскажаш. Усё лягчэй будзе на душы,— прасіла маці. Джазефіне і самой вельмі хацелася паехаць, і яна стала збірацца ў дарогу. Разам з маці паехала і Дана.

— Акрамя цікаўнасці, мяне прымусіла адправіцца з мамай і боязь за яе,— прызнаецца Дана Джонс.— Аб вашай краіне ў нас у Тэхасе гавораць рознае. Я не надта верыла, але ўсё ж... не хацела адпускаць маму адну. Цяпер бачу, што баяцца не было чаго, але аб тым, што паехала, не шкадую. Мы адкрылі для сябе зусім новы свет. І вельмі радасна, што ў гэтым свеце ў нас ёсць родныя людзі.

— Я не чакала, што змагу пабываць у вёсцы,— працягвае Джазефіна Новак,— і была па-сапраўднаму шчаслівая, што маміна мара ажыццявілася. Але яшчэ большае шчасце я адчула, убачыўшы, як Дана плача, абняўшы цётку.

— Вы не паверыце, але яны з бабуляй вельмі падобныя,— перабівае Дана.— А калі заспявала тыя ж песні, што я так часта чула ад роднай бабулі і такім жа голасам, я зразумела, што гэта сапраўды вельмі блізкі мне чалавек. Мы запісалі для бабулі на магнітафон прывітанні ад яе сваякоў. Упэўнена, што яна будзе задаволена. А пра тое, што нам спадабалася, і расказаць не давядзіцца. Ужо цяпер прыкідваем з мамай, калі зможам зноў прыехаць сюды.

— Я таксама думаю аб тым, каб зноў прыехаць у вашу краіну,— пачаў размову высокі сівы мужчына Стэнлі Пэкстан.— Бацькі маёй жонкі Мэры родам з Беларусі. І яна доўга ўгаворвала мяне прыехаць сюды. Цяпер я рады, што згадзіўся. Не пабаюся сказаць: паездка не толькі стала для мяне, як і для Даны Джонс, адкрыццём новага свету, але нават у многім змяніла мае погляды. У Амерыцы вельмі многія маюць памылковае ўяўленне аб Савецкай краіне. Да іх ліку належаў і я. Але цяпер я гляджу на яе зусім па-іншаму. Нам пашанцавала, што мы прыехалі з групай вашых суайчыннікаў і адчулі на сабе клопат Беларускага таварыства «Радзіма». Для мяне незабыўнай застанецца паездка ў піянерскі лагер «Зялёны Бор», дзе цяпер адпачываюць дзеці і ўнукі суайчыннікаў з розных краін. Жывуць яны ў тых жа ўмовах, што і савецкія дзеці. А ўмовы, вядома, выдатныя. Не выпадкова Мэры плануе прыслаць у гэты лагер у наступным годзе каго-небудзь з нашых чацвярых унукаў. Таму што нічога падобнага на вашы піянерскія лагеры ў ЗША няма. І я быў проста ўражаны, даведаўшыся, што месяц адпачынку дзіцяці ў такім лагеры абыходзіцца бацькам у мізэрную суму—ад 12 да 18 рублёў. Вось дзе відаць сапраўдны клопат дзяржавы аб сваіх грамадзянах!

— Але гэта не галоўнае,—працягваў пасля паўзы Стэнлі Пэкстан.—Галоўнае, што мы пераканаліся ў міралюбстве савецкага народа, у яго вялікім жаданні жыць у міры. І цяпер ніхто ўжо не прымусіць мяне паверыць казкам аб «савецкай ваеннай пагрозе». Хіба можа народ, які столькі перажыў і страціў дваццаць мільёнаў у мінулай вайне, хацець новай вайны? Ніколі. Мяне літаральна ўзрушыў паказаны нам таварыствам фільм «Ідзі і глядзі». Я лічу, што яго павінны ўбачыць людзі ва ўсіх краінах. Больш рашучага і эмацыянальнага асуджэння вайны і заклiку да міру я яшчэ не сустракаў. Я меў тут магчымасць даведацца аб рэальных кроках у галіне раззбраення і забеспячэння міру. Такую палітыку сумленныя людзі любой краіны могуць толькі вітаць.

Словы Стэнлі Пэкстана ўважліва слухалі ўсе члены групы. Пасля таго, як ён скончыў, загаварыў Якаў Бажко.

— Я б хацеў здаць грошы ў Савецкі фонд міру. — сказаў ён. — Вось сто долараў ад мяне і яшчэ дзесяць прасіў перадаць мой сябар.

— Мы з жонкай таксама прыгатавалі сто долараў для гэтай мэты,—дадаў Уладзімір Дубіна.

Ініцыятыву падтрымалі і астатнія суайчыннікі. Работнікам Беларускага таварыства «Радзіма» давялося тэрмінова знайсці прадстаўніка Беларускага аддзялення Савецкага фонду міру, які прыняў узносы ў турыстаў з ЗША. Кожны ўносіў, колькі мог,—ад пяці да ста долараў. Матэрыяльнае становішча ў гэтых людзей рознае.

— Я думаю, не вельмі важна, колькі даў кожны з нас,—сказаў Якаў Бажко,—важна, што ніхто не застаўся ў баку. Гэтымі ўзносамі мы хочам выказаць сваё адабрэнне і падтрымку палітыкі нашай Радзімы, Савецкага ўрада, накіраванай на захаванне міру на планеце. Сёння гэта пытанне стала галоўным для ўсіх народаў зямлі. І мы, суайчыннікі, жывучы за рубяжом, ганарымся тым, што менавіта наша Радзіма робіць самыя вялікія намаганні для таго, каб пазбавіць чалавецтва ад пагрозы вайны. Няхай і наш сціплы ўклад паслужыць справе ўмацавання міру. Усе мы жывём надзеямі і марамі зноў прыехаць сюды. А гэта будзе магчыма толькі тады, калі на зямлі будзе мір.

**Рыгор ФАМЕНКА.**

ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ

# НЕ МАГУ НЕ ГАНАРЫЦЦА

Дарагія землякі, супрацоўнікі «Голасу Радзімы»!

Вялікае дзякуй за вашу ўвагу да мяне, за газеты і кнігі, якія з задавальненнем чытаю. Вось нядаўна атрымаў кнігу «Радзіма Савецкая». Яна мне вельмі спадабалася за тое, што ў ёй падрабязна апісана мінулае і сучаснае маёй Радзімы. Мінулае я бачыў сам і добра помню. Яшчэ дзесяцігадовым хлопчыкам я быў разведчыкам у партызанскім атрадзе на Палессі, у 1921 годзе дапамагаў вызваляць Беларусь ад белапольскай арміі. Шкада, што ў час Вялікай Айчыннай вайны зрабіў вельмі мала, не далі мне доўга ўдзельнічаць у барацьбе майго народа—у 1942 годзе пад прымусам адправілі на работу ў Германію. Але гэта ўжо даўнія справы. А вось чытаць аб сённяшнім дні Радзімы мне вельмі цікава. Таму што за той час, што я жыву на чужыне, на бацькаўшчыне адбылося шмат падзей, вельмі многае змянілася. Як вы зразумелі, я памятаю Беларусь у пажарах і папялішчах, гарады ў руінах. І цяпер, чытаючы вашу газету і кнігі аб сучасным жыцці, разглядаючы фатаграфіі гарадоў і вёсак, не магу не ганарыцца і не захапляцца ратным і працоўным подзвігам роднага народа. Цяпер у ФРГ стала значна больш з'яўляцца інфармацыі пра палітыку Савецкага Саюза. У многіх немцаў ваша міралюбівая знешняя палітыка выклікае адабрэнне і знаходзіць падтрымку. Я часта чую, як людзі гавораць аб гэтым на вуліцах і ў кафэ. І тут кожны раз у мяне зноў узнікае пачуццё радасці і гордасці за сваю вялікую Радзіму, якая ўказвае ўсім народам рэальны шлях пазбаўлення ад страшнай пагрозы ядзернай вайны, што навісла сёння над чалавецтвам.

Яшчэ раз дзякую за тое, што не забываеце мяне, за весткі з Радзімы — вашы газеты.

Жадаю вам здароўя, поспехаў у рабоце, светлага неба над планетай, міру і шчасця на зямлі!

**Ваш зямляк і чытач Міхаіл МАДОРНЫ.**

ФРГ.



# To develop relations

The 3rd Conference of the Byelorussian Society for Cultural Relations with Compatriots Abroad (The **Radzima** Byelorussian Society) was held on April 16, 1987 in Minsk. It was attended by the delegates from the founding organizations and guests, including prominent scientists, writers, workers in culture and arts, public figures.

The **Radzima** Byelorussian Society maintains relations with more than 35 foreign organizations that unite compatriots abroad. The geography of these ties includes 20 foreign coutries where people of Byelorussian origin live.

The **Golas Radzimy** (The Voice of Motherland) newspaper is subscribed by compatriots and their societies in 57 countries. Over the past five years the Society has been fruitfully cooperating with the Federation of Russian Canadians, various clubs and Arrow Park in the USA, the Federation of Cultural Societies of Soviet Citizens in Argentine, the Union of Soviet Citizens in Belgium, the Slavonic Society of Friendship in Great Britain, the Russian Social Club in Australia and with some other traditional partners. Recently spiritual ties have been established with Uruguay, Ghana, Nigeria, Sudan and other countries. On the one hand all this testifies to popularity of the **Radzima** Byelorussian Society among our foreign compatriots and, on the other hand, proves the powerful attraction of the Motherland.

The related activities of campatriots involve the preservation of national traditions.

The most important thing, however, is the provision of firsthand information about the Soviet Union, the mobilization of efforts in support of the Soviet peace initiatives.

Many Byelorussians living abroad participate in the effort for peace not only by taking part in demonstrations and picketing the military bases. They also make donations to the Soviet Peace Fund. The Motherland accepts gratefully their voluntary contributions to the great cause of safeguarding peace.

Many of our compatriots have been awarded the decorations of honour, of the Soviet Peace Fund and have been thanked officially by its Byelorussian Branch for their active personal contributions to the strengthening of peace.

During the period under review the Society was very active. Progressive organizations of the compatriots have received thousands of copies of books, booklets, calendars, school textbooks and manuals, dozens of films which have enabled those who have not yet been in Byelorussia to see with their own eyes the dynamics of its life and to meet through the film their Soviet contemporaries. It is important that along with Byelorussians native born population — Englishmen, Argentinians, Australians and others went to see Byelorussian films and displays of photos.

The Society provides many people with sheet music, records of Byelorussian folk and modern pop-music, send patterns of the national costumes to amateur art groups and conducts many other activities.

The compatriots abroad are trying not only to strengthen spiritual ties with Motherland, but also to hand down deep attachment to it to their children and grandchildren who were born on foreign soil. That is why there are so many people wishing to spend their summer holidays in a pioneer camp near Minsk. It is already more than 30 years that the **Radzima** Byelorussian Society has been organizing summer holidays for the younger generation of our compatriots abroad. The Society provided such an apportunity to the first group of young people by organizing two years ago a meeting of those who once spent their holidays in a pioneer camp in Byelorussia.

The doors of Byelorussian higher educational establishments are open for the children of our compatriots. Now students from Greece, Argentine, Brazil and other countries are studying here.

It was mentioned at the Conference that today, on the eve of the 70th anniversary of the Great October Socialist Revolution, when the process of revolutionary reconstruction is under way throughout the country and when the Soviet Government and the Communist Party expressing the people's will, advance new proposals on nuclear disarmament our compatriots show a growing interest in the Soviet Union. And it is the duty of the **Radzima** Byelorussian Society to maintain and strengthen this spiritual attraction to the Motherland. The participants of the Conference elected a new Council of the **Radzima** Byelorussian Society, the Auditing Committee and the Presidium. Mikhail Savitsky, a prominent Byelorussian painter, was elected Chairman of the Presidium.

*ON PHOTO: Presidium of the Conference.*

# Individual enterprise: Does it contradict Socialism?

**AN INTERVIEW BY ANATOL FOMICH, CHAIRMAN OF THE STATE COMMITTEE OF THE BYELORUSSIAN SSR ON LABOUR TO GOLAS RADZIMY NEWSPAPER**

Q: The USSR Supreme Soviet at one of its sessions has passed the Law on Individual Enterprise. Foreign press has reacted simply: at last in the Soviet Union they have also appreciated the advantages of private enterprise. Therefore our readers first of all would like to know whether the recently passed Law on Individual Enterprise contradicts the principles of socialism.

A: There are no contradictions at all. The Law deals not with private but with individual enterprise. These are different things. The individual enterprise is based exclusively on individual labour of citizens and of the members of their families. Only. Hiring labour which unavoidably results in the exploitation of man by man is absolutely prohibited. Naturally, the Law does not permit it either. However it is true that individual enterprise was not until now very much encouraged, although it was spread quite widely. The Law enables a person to have additional incomes that would correspond to the work done. This is allowed both by the USSR Constitution and by the Constitution of the Byelorussian SSR.

Q: The Law effects first of all the consumer services. Does it mean that without the individual sector the state enterprises are not able to solve the existing problems?

A: Individual contractors are able to take up only a small part (1 % as preliminary estimates show) of the total volume of services required by the population. The demand will be met mostly by public enterprises. Things are gradually improving in this respect. Under the Comprehensive Programme of Goods and Services Production Development for the period from 1986 to 2000 important measures are being taken: economic mechanism, organizational and material incentive forms are perfected.

However, the individual enterprise is useful for the society not only because it can promote satisfying the demand for goods and services. It will also promote the involvement of the population, first of all of pensioners, invalids, housewives into active employment and provide them with the source of additional earnings.

Q: If a person has decided to start an individual enterprise, where should he or she apply to for the permission?

A: In order to get the permission one should apply to the executive committee of a local Soviet of People's Deputies. A registration certificate or a patent will be issued there. The determination of kinds of labour activities to be patented and of annual patent payments is within the competence of the Council of Ministers of the Republic. Patentees will be exempt from income taxes on patented individual enterprise. In other cases incomes will be taxed. Therefore individual contractors who have no patents will have to declare annually their incomes received to the financial department of an Executive Committee.

Q: What assistance from the state an individual contractor can count on?

A: Executive committees of local Soviets of Republic's Deputies can lease non-residential premises, help in acquiring tools, materials and in marketing the output produced. The social security bodies will provide required material and technical resources. The state may provide credits. Local authorities must help with advertising. Naturally, shops, centres operating services and other such like enterprises will be registered properly. Their location, working hours and types of services they offer will advertised through display boards, local newspapers and radio broadcasts. The Law is a concrete and clear document. And for those who earn additional incomes by an honest work it will serve as a reliable legal basis. If a person considers actions of local authorities to be illegal he or she can appeal to an Executive Committee of a higher Council of People's Deputies or the Council of Ministers of the Republic.

Q: The Law has already brought about practical results. Could you give any examples?

A: Probably, you have seen already personal cars, used as taxis. Cooperatives for home, car and furniture repairs, for providing assistance to disabled persons, etc. are being formed in many cities of the Republic. The state encourages uniting those engaged in individual enterprise, into cooperative and voluntary associations.

# Cultural values to People

Constituent Conference of the Byelorussian Branch of the Soviet Culture Fund was held recently in Minsk.

About 300 representatives of creative unions, party, Soviet, trade-union and Komsomol organizations as well as representatives of working collectives and cultural institutions were elected delegates to the Conference. N. N. Mazai, Deputy Chairman of the Council of Ministers of the Byelorussian SSR, head of the organizing committee made a report on the tasks and major directions of the activity of the Branch.

The branch was set up on the initiative of the public, she said. All those who are interested in the development of the socialist culture, spiritual and historical heritage of the nation can participate in its activity on a voluntary basis. The Fund which is an organization of a new type is going to become a link, having an importance of principle, of perfectioning the mechanism of social and state management in the field of culture. Every decision of the Fund will be taken on a democratic basis with due regard for public opinion, and following broad discussions in cases of special importance.

Much attention in the report and statement was paid to long-term task programmes worked out by the Soviet Culture Fund since its foundation in November 1986. One of them was the programme called Memory, which is formed on already existing basis. At present 15210 historical and cultural monuments are registered in Byelorussia, 10815 are protected by the state. Of special importance are 8500 war memorials commemorating heroism of the Soviet people in the struggle against fascist invaders. 34 towns of the Republic preserved ancient architectural centres and areas of historical buildings. A great deal of work is to be done for their restoration and reconstruction. The support of the public, of the Culture Fund are needed in the realization of the programme so as to avoid mistakes in working out plans and reconstructing old towns, and in functional use of historical buildings.

The task set for the Branch of the Fund included developing contacts of museums with collectors, incorporating cultural values, historical relics, manuscripts, documents and archives into the treasury of culture, making them open to the wide audience as well as finding and bringing back to the homeland those works of art, historical and cultural relics of the Byelorussian people that are now abroad.

Rich in content is the Fund's programme named Pushkin in the Hearts of Generations. Its inherent part along with the care for Pushkin's literary heritage will be the memorialization, restoration and popularization of historical and literary landmarks associated with the names of distinguished Byelorussian educators and writers.

The participants of the conference paid special attention to the Youth and Culture Programme. They noted that youth associations and clubs engaged in studying history and culture of their native Land, spiritual heritage of the people and restoration of monuments deserve approval and support. Of great importace will be participation of the Fund's Branch in the elaboration of the Comprehensive Programme for Aesthetic Education of the Republic's Population and in the realization of the Children and Culture Programme. It must contribute to keeping up and developing arts and crafts as well as forklore, promote internationalism and mutual enrichment of national cultures.

The activity of the new organization, stressed the delegates, should not be limited to enlightment. Resolute actions are required against those who destroy monuments which are part of the national wealth.

Concrete proposals were submitted regarding the organization of the Branch activity and the development of its optimal structure. The necessity to provide financial, moral and legal support to the initiatives of the public aimed at increasing the cultural heritage of the country, was stressed in the resolution taken by the conference.

The conference elected the governing bodies of the Byelorussian Branch of the Soviet Fund of Culture. Ivan Chygrinov, a well-known Byelorussian writer was elected Chairman of the Board.

### *У ВЯЗЫНЦЫ ПРАЙШЛО РЭСПУБЛІКАНСКАЕ СВЯТА ПАЭЗІІ*

# ПЕСНЯ, СУГУЧНАЯ ЧАСУ

12 ліпеня, у нядзелю, зноў з самай раніцы напоўніліся галасамі ваколіцы Вязынкі — калыскі народнага песняра Янкі Купалы. Сёлета мінула сто пяць гадоў з таго дня, як у сям'і Бянігны і Даменіка Луцэвічаў нарадзіўся сын Яська, якому лёсам было наканавана ўвайсці ў гісторыю сусветнай паэзіі пад імем Янка Купала. У гонар гэтай падзеі і адбылося ў Вязынцы чарговае Рэспубліканскае свята паэзіі. Яно прысвячалася 70-годдзю Вялікага Кастрычніка, дзякуючы якому расквітнеў і набраўся моцы талент простага вясковага юнака, які стаў выразнікам запаветных дум свайго народа.

Пад паўдня ўсё больш шырокай становіцца людская рака, што кіруецца да хаціны, у якой паэт нарадзіўся. Падыходзяць чарговыя электрычкі з Мінска і Маладзечна, спецыяльныя аўтобусы з розных раёнаў рэспублікі. Сярод наведвальнікаў — нямала гасцей з братняй Літвы, дзе таксама ведаюць і любяць паэзію Купалы.



Пісьменніцкая дэлегацыя на чале са старшынёй праўлення СП БССР, Героем Сацыялістычнай Працы, лаўрэатам Ленінскай прэміі Максімам Танкам, у складзе якой вядомыя беларускія паэты, госці з Расійскай Федэрацыі, Украіны, Літвы, Малдавіі, усклала кветкі да помніка народнаму песняру.

Знаёмству гасцей з экспазіцыяй філіяла Літаратурнага музея Янкі Купалы ў Вязынцы спрыяюць вясёлы жартаўнік Несцерка, а таксама героі купалаўскай «Паўлінкі», ролі якіх выконваюць самадзейныя артысты.

...Сотні людзей сабраліся на летняй эстрадзе. Адкрыў свята першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Ніл Гілевіч. Купалаўская паэзія, сказаў ён, рыхтавала Вялікую Кастрычніцкую рэвалюцыю. Калі працоўны беларускі люд падняўся ў векапомным семнаццатым на барацьбу, калі ён сэрцам прыняў ідэалы Кастрычніка, то ў гэтым ёсць і велізарная заслуга Купалы. І сёння Купала-паэт і грамадзянін наперадзе нас.

Перад гасцямі свята з новымі вершамі па традыцыі выступілі М. Танк, М. Лужанін, Р. Барадулін, К. Камейша, паэты маладзейшага пакалення. Госць з Малдавіі, паэт Андрэй Храпацінскі прачытаў адзін з купалаўскіх вершаў па-малдаўску і перадаў у дарунак Купалаўскаму музею зборнік нашага песняра, які нядаўна выйшаў у Кішынёве на малдаўскай мове.



Мастацкую частку свята адкрыў ансамбль «Песняры» новай праграмай «Песняры» — песняру».

...Над наваколлем плыве задушэўная латышская народная песня, яе змяняе агністы танец... Выступаюць самадзейныя артысты з Елгаўскага раёна братняй Латвіі. Канцэрт працягваюць народны ансамбль песні і танца «Спадчына» [illegible]аксама фальклорна - этна[illegible]фічная група «Маркаўчанка» і аркестр народных інструментаў Маркаўскага сельскага Дома культуры Маладзечанскага раёна.

На сцэне — Сцяпан Крыніцкі, Альжбета, Пранцысь [illegible]рэвіч, Агата, Якім Сарока і, [illegible]нечне ж, Паўлінка і Адольф Быкоўскі — слуцкі народны тэатр паказвае спектакль па славутай купалаўскай п'есе «Паўлінка».

Людна ля імправізаванага стала «Аўтограф на памяць». Жадаючых атрымаць яго ў паэтаў столькі, што проста не падступіцца.

Лёгкі дождж, які пачынае імжэць, святу не перашкода — працягваецца сустрэча з Янкам Купалам, сустрэча з Паэзіяй.



**НА ЗДЫМКАХ: свята ў Вязынцы; М. ТАНКУ ўручаюць хлеб-соль; купалаўская «Паўлінка» ў пастаноўцы народнага тэатра Дома культуры горада Слуцка; ускладанне кветак да помніка Янку Купалу; кніжны кірмаш.**

**Фота А. КАЛЯДЫ і Ю. ПАЎЛАВА.**





# АНСАМБЛЬ НАЗАРАВА

Калі на сцэне ансамбль пад кіраўніцтвам Уладзіміра Назарава, здаецца, быццам уся планета пяе і круціцца ў танцы. Гучаць песні розных краін і народаў. Фальклорная група Назарава ў ліку іншых творчых калектываў прадставіць савецкае мастацтва на фестывалі СССР у Індыі.

Ансамблю ўсяго шэсць год. Яго любяць ва ўсіх кутках нашай краіны. Гледачы больш як 20 дзяржаў свету апладзіравалі мастацтву маладых артыстаў.

Шлях да поспеху і прызнання складваўся для групы Назарава няпроста. Спачатку была «Жалейка» — ансамбль рускай народнай музыкі, які нарадзіўся ў сценах Маскоўскага інстытута культуры. Вядомасць да музыкантаў прыйшла хутка, і як сведчанне гэтага — выступленне на лепшых сцэнічных пляцоўках Масквы, другое месца на Усерасійскім конкурсе выканаўцаў на рускіх народных інструментах. Яны ўступілі толькі Дзяржаўнаму рускаму народнаму аркестру імя Осіпава. І раптам — адмена ўсіх гастролей, поўнае абнаўленне праграмы. Што ж адбылося?

— Другое месца на конкурсе — гэта, вядома ж, поспех, — расказвае Уладзімір Назараў. — Але мы рызыкавалі стаць назаўсёды другімі. Тады ў нас нарадзілася ідэя: стварыць вакальна-інструментальную групу, якая б выконвала не толькі рускія народныя песні, але і мелодыі многіх народаў свету. Пры гэтым не капіраваць сляпа манеру музыкантаў з розных краін, а старацца перадаць галоўнае — дух народа. Але каб дабіцца гэтага, патрэбны былі аднадумцы, апантаныя гэтай жа ідэяй. І такія хлопцы знайшліся.

Цяпер іх 15 чалавек. У новым складзе група нібы знікла на паўтара года. Усе зарабляемыя грошы і зберажэнні ішлі на музычныя інструменты (іх цяпер у калектыва больш за 100) і касцюмы. Увесь час — на рэпетыцыі. І вось у красавіку 1983 года нечакана для многіх ансамбль заваяваў першае месца на Усесаюзным конкурсе артыстаў эстрады. Вялікі поспех выпаў на долю ансамбля ў дні XII Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў у Маскве.

— Мы не лічым сябе этнаграфічным калектывам, — працягвае Уладзімір Назараў. — Наша задача — не літаральнае ўзнаўленне народных песень, а сучаснае асэнсаванне, інтэрпрэтацыя фальклору. Сярод спецыялістаў існуе меркаванне, што фальклор нельга трансфарміраваць. Нам, наадварот, здаецца, што гэта не толькі музыка бабуль і дзядуль, але і зусім сучасны напрамак музычнай культуры. Дарэчы, імправізацыйны пачатак, уласцівы фальклору, прывёў у нашу групу музыкантаў з джаза. Іншыя прыйшлі з рок-музыкі, а некаторыя — з класікі.

Усе песні мы выконваем на мове той народнасці і краіны, адкуль яны прыйшлі. Натуральна, гэта патрабуе спецыяльнай падрыхтоўкі. Цяпер салісты ансамбля Тамара Сідарава, Ірына Гушчава, Канстанцін Кужаліеў, Сяргей Козін і Аляксандр Шыпаў шмат часу праводзяць у лінгафонных кабінетах — рыхтуюць сюрпрыз індыйскім слухачам — песні на хіндзі.

**Уладзімір ВАХРАМАЎ.**

*З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ*

# У ГАРМОНІІ З ПРЫРОДАЙ

Бібліятэка сяброў прыроды папоўнілася яшчэ адной цікавай кніжкай «Ахова прыроды», якую выпусціла ў свет выдавецтва «Беларусь». Напісаў яе вядомы беларускі вучоны, заолаг-эколаг, кандыдат біялагічных навук Аляксандр Курскоў. Чытачы ведаюць яго па публікацыях у «Голасе Радзімы». А. Курскоў — аўтар шматлікіх кніг, брашур, артыкулаў па ахове прыроды, жывёльнага і расліннага свету. Ён адзін са стваральнікаў Чырвонай кнігі Беларускай ССР.

«Ахова прыроды» — невялікая, ілюстраваная каляровымі фатаграфіямі кніга, выдадзена адначасова на чатырох мовах: рускай, англійскай, французскай і нямецкай.

У раздзеле «Знаёмства з прыродай Беларусі» ў сціслай форме чытач знаёміцца з характарыстыкай прыродных умоў, з рэльефам, кліматам, вадаёмамі рэспублікі, даведваецца, што плошча Беларусі складае 207,6 тысячы квадратных кіламетраў, што тут больш за 10 тысяч азёр, працякае звыш 3 тысяч рэк, агульная працягласць якіх складае 50 тысяч кіламетраў, што трэцяя частка тэрыторыі занята лясамі (34,5 працэнта), дзе растуць 28 відаў разнастайных дрэў і 70 — хмызняку.

У асобным раздзеле аўтар расказвае, як у нас ахоўваецца прырода. Тут таксама даецца багатая інфармацыя, лаканічная храналогія мерапрыемстваў па ахове прыроды.

Чытач даведаецца, што ў новай Канстытуцыі Беларускай ССР (1978) ахова навакольнага асяроддзя ўзведзена ў ранг Асноўнага Закона рэспублікі, прычым у ёй адлюстраваны ўсе 10 прынцыпаў Заключнага акта Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе, падпісанага ў Хельсінкі, што з 1974 года ў рэспубліцы ўведзена планаванне прыродаахоўных мерапрыемстваў. Яно ажыццяўляецца на падставе распрацаванага агульнаэкалагічнага прагнозу магчымых змяненняў у біясферы і з улікам развіцця галін народнай гаспадаркі рэспублікі да 2000 года. Дакументамі вялікай важнасці з'яўляюцца Генеральная схема выкарыстання зямельных рэсурсаў БССР і Схема рацыянальнага размяшчэння ахоўваемых прыродных тэрыторый БССР.

З 1954 года Беларуская ССР — член ЮНЕСКО, у 1980 — рэспубліка выбрана членам Міжнароднага каардынацыйнага савета па праграме ЮНЕСКО «Чалавек і біясфера», у 42 навуковых установах і вышэйшых навучальных установах рэспублікі вучоныя праводзяць даследаванні па гэтай праграме. У 1979 годзе БССР увайшла ў Савет кіраўнікоў праграмы ААН, звязанай з праблемамі навакольнага прыроднага асяроддзя (ЮНЕП). У 1983 годзе ў Мінску быў праведзены I міжнародны кангрэс па біясферных запаведніках.

Асаблівую ўвагу аўтар удзяляе главе «Запаведнікі Беларусі» — сам ён многа гадоў працаваў у старэйшым запаведніку Еўропы «Белавежская пушча», праводзіў навуковыя даследаванні і ў іншых запаведніках і заказніках.

Чытач даведаецца, што на тэрыторыі рэспублікі створаны тры прыродныя запаведнікі (Белавежская пушча, Бярэзінскі біясферны і Прыпяцкі ландшафтна-гідралагічны) і адзін мемарыяльны (сядзіба беларускага народнага паэта Янкі Купалы), а таксама 65 розных заказнікаў: ландшафтныя, гідралагічныя, геалагічныя, біялагічныя, заалагічныя, батанічныя, журавінныя, палыўнічыя, азёрныя, мемарыяльныя і іншыя. Прыродаахоўны фонд сёння складае 4,3 працэнта ўсёй плошчы рэспублікі.

З главы «Па старонках Чырвонай кнігі Беларускай ССР» можна даведацца, дзе, калі і з якой мэтай былі заснаваны міжнародная і ўсесаюзная Чырвоныя кнігі. Чытач даведаецца, чаму менавіта белавежскі зубр, буры мядзведзь, барсук, арол, беркут, чорны бусел, філін і іншыя звяры і птушкі занесены на старонкі рэспубліканскай Чырвонай кнігі, а таксама аб мерах, прымаемых для выратавання гэтых рэдкіх і знікаючых відаў жывёльнага і расліннага свету на тэрыторыі рэспублікі.

Аўтар кнігі разглядае пытанні аховы прыроды з экалагічных, маральных і сацыяльных пазіцый, заклікае чытача яшчэ раз задумацца аб адносінах чалавека да прыроды.

**Ганна НОВІКАВА,**
**кандыдат біялагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР.**





**На заводскіх загарадных базах «Верасы» і «Прыдзвінне» пабываюць летам больш дзвюх тысяч рабочых і служачых Віцебскага вытворчага аб'яднання «Маналіт», членаў іх сямей. Ім створаны тут усе ўмовы для адпачынку. У лясных гарадках пабудаваны добрыя жылыя памяшканні, сталовыя, абсталяваны спортпляцоўкі.**

**НА ЗДЫМКАХ: добра адпачываюць тэхнік Т. ВАСІЛЬЕВА, слесар С. ШАПУЛАЎ і загадчыца секцыі Віцебскага універмага С. КРАЎЦОВА; кадр на памяць. Фатаграфуе электразваршчык У. ДУНАЕВІЧ. Злева — яго жонка Людміла, эканаміст аб'яднання. На другім плане — рабочы Сяргей ЕСІПАЎ з сынам Вовам і жонкай.**

**Фота А. ЦАРЛЮКЕВІЧА.**

*У ВАШУ КАЛЕКЦЫЮ*

# ГРАКІ ПРЫЛЯЦЕЛІ... НА МАДАГАСКАР

Нядаўна паштовае ведамства Дэмакратычнай Малагасійскай Рэспублікі выпусціла серыю паштовых марак, прысвечаную 130-годдзю Траццякоўскай галерэі, што выклікала вялікі інтарэс у філатэлістаў, якія цікавяцца тэмай жывапісу, а таксама беларускай тэматыкай у філатэліі.

На пяці марках і блоку адлюстраваны шэдэўры рускага выяўленчага мастацтва, што захоўваюцца ў гэтым музеі. Партрэтны жывапіс прадстаўлены карцінамі І. Рэпіна «Партрэт Паўла Траццякова» (1883 год), І. Крамскога «Незнаёмка» (1883 год), А. Кіпрэнскага «Партрэт паэта А. С. Пушкіна» (1827 год). Пейзажны — карцінамі І. Левітана «Сакавік» (1895 год) і А. Саўрасава «Гракі прыляцелі» (1871 год).

Прыклад нацюрморта — карціна І. Хруцкага «Плады і фрукты» (1839). Марка найбольш зацікавіла калекцыянераў нашай рэспублікі (Іван Хруцкі — выхадзец з Беларусі). Гэта першая замежная мініяцюра, прысвечаная яго творчасці і трэцяя ўвогуле. У 1979 годзе Міністэрства сувязі СССР выпусціла серыю марак «Кветкі ў творах рускага і савецкага жывапісу». Першая адлюстравала карціну І. Хруцкага «Кветкі і фрукты». Да выхаду мініяцюры ў паштовы абарот быў выдадзены канверт «Першы дзень» з рэпрадукцыяй гэтай жа карціны.

Рэпрадукцыя другой карціны мастака «Партрэт жонкі з кветкамі і фруктамі», якая захоўваецца ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР, была паказана ў 1983 годзе на марцы з серыі «Жывапіс Беларусі». Тады ж Міністэрства сувязі СССР выпусціла набор паштовак з маркамі, на якіх паказаны рэпрадукцыі карцін беларускіх мастакоў. Гэтыя паштоўкі разам з маркамі і спецыяльным штэмпелем «Першы дзень. Жывапіс Беларусі» склалі набор так званых картмаксімумаў, якія карыстаюцца папулярнасцю ў філатэлістаў. У серыю 1983 года «Жывапіс Беларусі» ўвайшлі маркі з рэпрадукцыямі карцін М. Савіцкага «Партызанская мадонна», Я. Зайцава «Юны партызан», В. Цвіркі «Збожжа сабрана», В. Бялыніцкага-Бірулі «Ранняя вясна» і ўпамянутая вышэй карціна І. Хруцкага.

100-годдзю В. Бялыніцкага-Бірулі, жывапісца-пейзажыста, народнага мастака БССР і РСФСР, савецкая пошта ў 1972 годзе прысвяціла мастацкі канверт з яго партрэтам. Яго выканаў вядомы мастак А. Яр-Краўчанка. Тады на Мінскім паштамце прымяняўся спецыяльны штэмпель. У малюнку штэмпеля — нацыянальны арнамент.

Некалькі мастацкіх канвертаў савецкая пошта прысвяціла Дзяржаўнаму мастацкаму музею БССР, заснаванаму ў Мінску ў 1939 годзе як Дзяржаўная карцінная галерэя БССР. Сучасны будынак музея, адлюстраваны на паштовых канвертах, быў узведзены пасля вайны, і карцінная галерэя з 1957 года размясціла тут свае экспазіцыі. Першы канверт, прысвечаны мастацкаму музею БССР, быў выдадзены ў 1963 годзе, затым пошта выпусціла такія канверты ў 1977 і 1981 гадах. На іх малюнках паказаны будынак музея — яго галоўны ўваход.

**Леў КОЛАСАЎ.**

# БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

**СВІНІНА СМАЖАНАЯ**

Свіную шынку нарэзаць кавалкамі, пасаліць і абсмажыць. Зверху пакласці смажаную цыбулю і падаць з адварной бульбай і кіслай капустай.

500 грамаў свініны, 3 сталовыя лыжкі топленага сала, 8 бульбін, 1—2 цыбуліны, 300 грамаў кіслай капусты, соль.

**МОРКВА, ЗАПЕЧАНАЯ СА СМЯТАНАЙ**

Моркву нарэзаць лустачкамі, дабавіць цукар, соль і абсмажыць да ўтварэння румянай скарыначкі. Затым уліць смятану і запячы ў духоўцы.

3—4 морквы, 3 сталовыя лыжкі цукру, 0,5 шклянкі смятаны, 2 сталовыя лыжкі сметанковага масла, соль.

**БЛІНЧЫКІ**

Спячы блінчыкі. Тварог працерці з цукрам і яйкам, дабавіць прамытыя гарачай вадой разынкі і перамяшаць. Фаршам начыніць блінчыкі, загарнуць іх у выглядзе канвертаў, намачыць у разведзеным малаком яйку, запаніраваць у сухарах і падсмажыць на масле ці маргарыне да ўтварэння румянай скарыначкі.

160 грамаў тварагу, 1 сталовая лыжка цукру, 2 яйкі, 2 сталовыя лыжкі сухароў, па 1 сталовай лыжцы масла і малака, 3 чайныя лыжкі разынак.

**ПАМПУШКІ БУЛЬБЯНЫЯ**

Бульбу зварыць у лупінах, ахаладзіць і абабраць. Прапусціць праз мясарубку, затым дабавіць соль, яйка, муку і перамяшаць да аднароднай кансістэнцыі. Падрыхтаваную масу раскачаць да таўшчыні 2 сантыметры. Атрыманы слой цеста нарэзаць ромбікамі і абсмажыць. Гатовыя пампушкі паліць маслам ці смятанай.

12 бульбін, 0,5 шклянкі мукі, 1 яйка, 2 сталовыя лыжкі топленага масла ці алею, 0,5 шклянкі смятаны, соль.

# ГЛЫБОЦКІ КЕДР

У пачатку XX стагоддзя ў парку пасёлка Залессе Глыбоцкага раёна былі высаджаны 4 кедры. Ва ўзросце 70 год (вышыня дрэў раўнялася 13 метрам) было ўзята насенне, з яго атрыманы саджанцы. З мясцовых саджанцаў цяпер у дэндрарыі Глыбоцкага доследнага лясгаса расце каля 70 дрэў кедра.

Ужо 50—70-гадовыя дрэвы даюць арэхі, а некаторыя пладаносяць нават з 20—25 гадоў. Найбольш добрыя ўраджаі кедры даюць у 100-гадовым узросце. З аднаго такога дрэва можна атрымаць да 50 кілаграмаў чыстых арэхаў.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

**НАШ АДРАС:**

**МІНСК-5, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**
**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80; 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 1110